# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 38 (2232)

19 верасня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

КАНСТЫТУЦЫЙНЫ ІНСТЫТУТ ЦІ ДЭКЛАРАТЫЎНАЯ ЎСТАНОВА

## У ЦЕНЮ ВЫШЫНСКАГА

### Гутарка з прэзідэнтам Саюза адвакатаў БССР Гары ПАГАНЯЙЛАМ

Пра адвакатаў у нас за савецкім часам амаль што не пісалася, не згадвалася ў прэсе. Акрамя выпадкаў, калі яны на чымсьці "гарэлі". Вось тады ўжо іх размалёўвалі ў фельетонах! Таму, ідучы на сустрэчу з прэзідэнтам Саюза адвакатаў Беларусі Гары Паганяйлам, я меў цьмянае ўяўленне аб людзях гэтай прафесіі і іх ролі ў нашым жыцці. Але мне здавалася, што нашчадкі славутага расійскага адваката Плявакі, які з поспехам бараніў многіх і выйграваў судовыя працэсы, цешацца не меншай папулярнасцю ў народзе, іх імёны вядомы ўсім.

— Гэта была яшчэ старая школа, цяпер такіх яркіх асоб няма, — расчараваў мяне мой субяседнік. — Былі часы, калі на некаторых адвакатаў хадзілі, як на оперных ці драматычных артыстаў, — паслухаць і паглядзець. Але наша сістэма паступова іх вытравіла. Народ перастаў хадзіць на працэсы. Цяпер, акрамя самых блізкіх, у су... й зале нікога няма. Таму што сам працэс стаў інакшым: вядзецца груба, з парушэннем элементарнай этыкі, з абвінаваўчым ухілам. Заўважаецца непрыязнасць суда да таго, хто абвінавачваецца, а нярэдка і да сведак, да пацярпеўшага. Калі даюцца паказанні не такія, як на следстве, суд выходзіць з сябе, пагражае санкцыямі. Нізкі прафесійны ўзровень. Наша сістэма вінавата ў прафесійнай дэгр...ацыі юрыстаў, яна давяла да таго, што цяпер яркіх адвакатаў н...

Да гэтага спрычынілася і такая, распаўсюджаная ў мінулыя гады з'ява: у адвакатуру "заганялі" часцяком не самых крыштальна сумленных і з высокімі прафесійнымі якасцямі юрыстаў. Скажам, праштрафіўся следчы, куды яго спіхнуць? У адвакаты! Скампраметаваў сябе суддзя — зноў туды ж. Так што, калі гаварыць праўду, то адвакатура стала сметнікам, магілкамі юрыстаў.

Калі разглядаць праблему шырэй, то павінен шчыра сказаць: і да гэтай пары ў свядомасці нашых юрыстаў адвакатура была і засталася чыста дэкларатыўнай установай. У свіце Феміды мы на апошнім месцы. Так нас успрымаюць і следчыя, і пракуроры, і суд. Ніколі асабліва не цырымоніліся з намі і не лічыліся ні з пазіцыяй адваката, ні з яго аргументамі. Нават не бярэцца пад увагу тое, што без адваката не можа весціся правасуддзе. Тут мы ні ў якім плане не можам зраўняцца з нашымі зарубежнымі калегамі — ні прафесійным узроўнем, ні матэрыяльным становішчам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**17 верасня 1939 года: вызваленчы паход Чырвонай Арміі, уз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве. Кветкі. Радаснае прывітанне вызваліцеляў, шчаслівае жыццё без польскага пана.**

**Гэта нам вядома з гісторыі БССР, са шматлікіх успамінаў сведкаў тых падзей.**

**Але ці пра ўсё пішуць гісторыкі? Ці не абыходзяць "нявыгадныя" падзеі аўтары ўспамінаў?**

**Новы, рэалістычны погляд на 17 верасня 1939 года выказвае вучоны Мікола ІВАНОЎ.**

**"ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ ВАЙНА?"**

Стар. 5.

*АД СЭРЦА ДА СЭРЦА*




## ЦЯПЕР ВЕДАЕМ, ЯК ВАМ ЦЯЖКА

Пераварот у Маскве, закапёршчыкамі якога выступілі партыйныя, дзяржаўныя і ваенныя вярхі грамадскай піраміды, і рэвалюцыйны ўраган выкліканых ім падзей неяк адсунулі ўсе вялікія і малыя клопаты надзённасці. Каб усе! Беларускі народ уступіў у новую, "постпераваротную" эпоху з тым жа сваім горам, з тым жа цярновым вянком — Чарнобылем, які ўсё мацней і мацней упіваецца ў ягоную галаву. Але, нягледзячы на чарговы гістарычны катаклізм, на Беларусь прыйшоў яшчэ адзін "чарнобыльскі абоз міласэрнасці" — гуманітарная дапамога замежных суайчыннікаў. На гэты раз з Паўночнай Амерыкі.

Прадстаўнікі Федэрацыі рускіх канадцаў (ФРК), старшыня Галоўнага праўлення Антон Кульчын і актывіст яе аддзела ў Таронта Адам Райко, пры пасрэдніцтве Беларускага таварыства "Радзіма" прывезлі 2,5 тоны дабрачынных ахвяраванняў і ўласнаручна перадалі клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны БССР, якая месціцца ў Аксакаўшчыне, што ў 20 вярстах ад Мінска.

Больш падрабязны расказ аб гэтай высакароднай акцыі і сустрэчы з гасцямі-суайчыннікамі ў клініцы будзе выглядаць так...

...Хоць федэрацыя і носіць назву "рускіх канадцаў" на працягу шасцідзесяці гадоў, а, як згадаў Антон Кульчын, выхадцаў з Беларусі многа, можа і больш, чым з Украіны, а што з Расіі, дык бясспрэчна. (За прыкладам далёка хадзіць не трэба: абодва пасланцы ФРК вядуць свой род з Брэстчыны, адкуль іхнія бацькі пад канец 20-х гадоў перабраліся ў краіну кляновага ліста). Але гэта акалічнасць, па яго словах, не раз'ядноўвае членаў арганізацыі, а, наадварот, садзейнічае еднасці.

Чарнобыльскае ліха ўскалыхнула беларусаў Канады. Два гады таму федэрацыя распачала кампанію дапамогі "Дзецям Чарнобыля" па збору грашовых сродкаў. Вялася яна пад кіраўніцтвам спецыяльна абранага камітэта. (Такі арганізаваны рух — справа не новая, вопыт ёсць: падчас землетрасення ў Арменіі ФРК накіравала туды 60 тысяч долараў).

— Гэта не значыць, — працягваў А. Кульчын, — што ўдзел у гэтай працяглай кампаніі бралі толькі члены федэрацыі. Іх пачуцці і адносіны зразумелыя. А вось калі бачыш, што канадцы, якія не маюць родных сувязей з Беларуссю, прыносяць свае зберажэнні, такая праява салідарнасці і дабрыні моцна ўражвае.

— Спачатку мы не ведалі, якія рэчы неабходна закупіць на гэту суму, — тлумачыў Адам Райко, — таму перад усім Беларускае таварыства "Радзіма" наведала сакратар ФРК Аляксандра Юроўская і атрымала пералік неабходных клініцы ў Аксакаўшчыне медыкаментаў.

Такім чынам, у выніку праведзенай кампаніі было сабрана каля 52 тысяч долараў. 9 тысяч пайшло на закупку камп'ютэра, 38 тысяч — вітамінаў і лекаў. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што канадская кампанія "Novopharm ltd", прадавец вітамінаў, у сваю чаргу, ахвяравала беларускім дзецям дадатковую колькасць вітамінаў на такую ж суму, а кампанія "Bakster Corporation" — партыю аднаразовых шпрыцаў.

З вуснаў маіх субяседнікаў я пачуў, што грамадскасць Канады (а сярод грамадскасці — беларускія суайчыннікі), даволі слаба інфармавана аб тым, што менавіта беларуская зямля прыняла на сябе самы страшны, семдзесят працэнтаў ад ста, радыяцыйны ўдар чарнобыльскага Молаха. Сказанае не ёсць навіна, не ўпершыню. Аднак нялёгка было зразумець: толькі "Голас Радзімы" на чатырох мовах распрацоўвае гэтую тэму, іншыя газеты, афіцыйныя звароты, дэлегацыі з Беларусі розных узроўняў, урэшце існуюць актыўныя сувязі са сваякамі, што жывуць у забруджаных раёнах Бацькаўшчыны... Цяжка было б зразумець, каб госці самі часткова не далі адказ: у канадскіх сродках масавай інфармацыі гаворка пераважна ідзе пра

**НА ЗДЫМКУ: перадача ахвяраванняў у клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны: Адам РАЙКО (злева направа), Уладзімір НАВІЦКІ, намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства "Радзіма", Антон КУЛЬЧЫН, старшыня Галоўнага праўлення ФРК, Сяргей КАРЫЦЬКА, галоўны ўрач клінікі.**

**Фота М. АХРАМЕНКІ.**

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАМЯЦЬ

## ВЯЛІКАМУ АСВЕТНІКУ

Урад рэспублікі прыняў пастанову аб увекавечанні памяці вялікага беларускага асветніка, вучонага і першадрукара Францыска Скарыны за мяжой.

У Чэха-Славацкай Рэспубліцы, у горадзе Празе, яму будзе ўстаноўлены помнік, а ў гарадах Кракаве (Польшча), Падуі (Італія) будуць адкрыты мемарыяльныя дошкі.

На стварэнне помніка Францыску Скарыне з рэзервовага фонду Савета Міністраў БССР выдзяляецца 100 тысяч рублёў. Выдаткі па вырабу мемарыяльных дошак зроблены са сродкаў Міністэрства культуры БССР, атрыманых ад рэалізацыі грашова-рэчавай латарэі, прысвечанай 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны.

СТАТЫСТЫКА

## КОЦІМСЯ ЎНІЗ

Працягвае зніжацца вытворчасць мяса і малака ў рэспубліцы. За восем месяцаў рэалізавана 959,1 тысячы тон жывёлы і птушкі. У параўнанні з гэтым жа перыядам мінулага года гэта менш на 43, 8 тысячы тон (4 працэнты).

Валавы надой за студзень — жнівень знізіўся на 418,3 (10 працэнтаў) і склаў 3 772,9 тысячы тон.

Галоўнымі прычынамі спаду з'яўляецца скарачэнне пагалоўя жывёлы, якое працягваецца, і зніжэнне прадукцыйнасці яе. За 8 месяцаў сярэдні ўдой малака ад каровы склаў 2 237 кілаграмаў, ці на 173 кілаграмы (7 працэнтаў) ніжэй за ўзровень мінулага года.

У выніку зніжэння вытворчасці мяса і малака скараціліся іх закупкі. З пачатку года жывёлы і птушкі паступіла на 38,7 тысячы тон (4 працэнты) менш, чым у студзені — жніўні 1990 года. Малака прададзена менш на 480,6 тысячы тон, ці на 10 працэнтаў. Пра гэта паведаміў Дзяржкамстат БССР.

У СУСЕДЗЯЎ

## АТАМНЫ СУВЕРЭНІТЭТ?

"Ігналінская атамная электрастанцыя знаходзіцца ў юрысдыкцыі Літоўскай рэспублі к дзяржаўная ўласнасць Літвы, калі ў міждзяржаўных перагаворах рэспублікі і Саюза ССР не будзе дасягнута іншая дагаворанасць". Такое паведамленне паступіла ў Беларускае тэлеграфнае агенцтва з Вільнюса.

Дэлегацыі дамовіліся, што для забеспячэн а-дзейнай і бяспечнай эксплуатацыі ІАЭС будзе о-раны сумесны орган, які будзе выконваць функцыі эксплуатуючай арганізацыі.

— Далейшы лёс "Ігналіны" хвалюе і беларускіх энергетыкаў, — каменціруе гэта паведамленне галоўны інжынер аб'яднання "Беларусэнерга" Леанід Чарашко. — Таму што ІАЭС дае нам больш палавіны энергіі, якая паступае ў рэспубліку з-за межаў. Больш таго, яна звязана з адзінай сістэмай праз нас. І калі па эканамічных або палітычных прычынах Беларусь пазбавіцца гэтай важнай састаўляючай, прамысловасць апынецца на мяжы спынення.

ДЗІЦЯЧЫ МАЛЮНАК

## ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ НАТАШЫ

13-гадовая брэстаўчанка Наташа Салемановіч стала ўладальніцай залатога медаля міжнароднай выстаўкі дзіцячага малюнка ў Японіі. Арганізатары выстаўкі разгледзелі 84 тысячы малюнкаў з 67 краін свету, але Наташына работа "Песня Беларусі" спадабалася ім больш за іншыя.

СЕЛЕКЦЫЯ

Гэтыя прыгожыя гронкі вінаграду спеюць у цяпліцы Беларускага навукова-даследчага інстытута пладаводства, што знаходзіцца ў Самахвалавічах пад Мінскам. Вырасціў іх кандыдат біялагічных навук Р. ЛОЙКА (на здымку). Больш трыццаці гадоў займаецца гэтай культурай Рамуальд Эдуардавіч. "Краса поўначы", "касманаўт", "мускат дански" — каля трохсот сартоў вінаграду айчыннай і замежнай селекцыі ў актыве вучонага. Сваёй дзейнасцю Лойка даказаў, што пяшчотнае дзіця поўдня можа даваць ураджаі і на беларускай зямлі.

У Мінску адкрылася выстаўка "Беларускі вінаград-91". Яе ўдзельнікам стаў і Рамуальд Лойка.



АХОВА ЗДАРОЎЯ



**Акуліст з Брэста кандыдат медыцынскіх навук Віктар Санюкевіч выпраўляе касавокасць у дзяцей, вяртае зрок амаль сляпым людзям. Ён лечыць па сваёй методыцы, на апаратах, што сканструяваны ім жа. Да Санюкевіча едуць пацыенты з Сібіры і Прыбалтыкі, Краснадарскага краю і з Далёкага Усходу, шлюць пісьмы з просьбай прыняць на лячэнне хворых з Германіі і Польшчы. Цяпер Віктар Іосіфавіч займаецца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. Яму прадаставілі ў Брэсце трохпакаёвую кватэру, дзе ён вядзе ўрачэбны прыём.**

**НА ЗДЫМКУ: В. САНЮКЕВІЧ са сваёй памочніцай дачкой Ірынай — студэнткай чацвёртага курса Гродзенскага медінстытута.**

*"Немагчыма паверыць, каб у наш час у якой-небудзь рэспубліцы ўсталяваўся ўрад, які стане ўзводзіць "берлінскую сцяну" …а-між культурамі, што такі ўрад народ ( цярпець. Не толькі ў эканоміцы, але і ў культуры, у духоўнасці нікуды мы, народы-суседзі, народы-браты, адзін ад аднаго не адыдзем. Ці магчыма адвярнуцца, адгарадзіцца ад Пушкіна і Талстога, ад Шаўчэнкі і Райніса, ад Чайкоўскага і Чурлёніса, ад Траццякоўкі і Кіева-Пячорскай лаўры? Ці мы перастанем узаемна перакладаць кнігі, запрашаць тэатры і спевакоў на гастролі, наладжваць выстаўкі твораў мастацтва? Калі ўсяго гэтага з намі не здарыцца — а гэтага не здарыцца з намі ніколі! — тады адкуль трывога, аб якой сцяне размова? Каму ж у галаву прыйдзе стаць на шлях духоўнай самаізаляцыі? І хіба дзяржаўны суверэнітэт якой-небудзь краіны пашкодзіў развіццю яе культуры? Хутчэй наадварот".*

*(З інтэр'ю Ніла ГІЛЕВІЧА газеце "Советская Белоруссия").*

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ АПАЗІЦЫІ

# ДАЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ГРАМАДСТВУ ЗМЯНІЦЦА

Падчас V нечарговага з'езда народных дэпутатаў СССР група народных абраннікаў з БССР ад парламенцкай апазіцыі знаходзілася ў Маскве. Хоць на мэце мелася прабіць інфармацыйную блакаду, якой падвяргаецца Беларусь пасля краху жнівеньскага путчу, але размова на прэс-канферэнцыі з нагоды паездкі ішла аб поглядах членаў апазіцыі на дзень сённяшні і заўтрашні рэспублікі праз прызму рашэнняў вышэйшага, на той час заканадаўчага органа Саюза. А ён, гэты дзень рэспублікі, яе суверэнітэт бачыцца (адразу адзначым, ламаючы храналогію прэс-канферэнцыі) старшыні апазіцыі З. Пазняку ў "поўнай незалежнасці Беларусі цераз пераходны перыяд", у час якога будуць пэўныя пагадненні. А найбольш перспектыўная — Балтыйска-Чарнаморская Садружнасць.

Сваё выступленне, што адкрыла прэс-канферэнцыю, З. Пазняк распачаў з думкі, што V з'езд сваімі рашэннямі зацвердзіў распад Савецкага Саюза як унітарнай дзяржавы. Каб рэгуляваць гэты распад і не даць пайсці працэсам, якія і прывялі да абвалу ўсёй структуры, было прапанавана рашэнне аб пераходным перыядзе. Ён павінен спрыяць эканамічным пагадненням паміж рэспублікамі, што, атрымаўшы свабоду, але застаючыся звязанымі эканамічнай прасторай, будуць зацікаўлены, каб, рэзка не парываючы гэтыя сувязі, павольна перайсці ў новую якасць. На гэты перыяд — стварыць адпаведныя органы ўлады і каардынацыі, што рэгулявала б працэсы распаду і стварэння новай садружнасці і Саюза. Аднак яснасці ў прынятых дакументах няма. Тое, што на з'ездзе не выконваўся ні рэгламент, ні адпаведныя законы, дыктавалася не толькі неабходнасцю ратаваць становішча, але і, на думку прамоўцы, тым, што "зараз Расія прэтэндуе на дамінуючую ролю ў Савецкім Саюзе" і што "яна выразна заявіла аб сваіх імперскіх прэтэнзіях". (Гэтая тэза была стрыжнёвай у адказах лідэра апазіцыі. Напрыклад, згадаўшы аб адсутнасці цяпер дэмакратыі ў Расіі, — асабліва на вуліцах адчуваецца люмпен-імперыялізм — ён абагуліў: "Сітуацыя разгортваецца такім чынам, што адбываецца трансфармацыя старой імперыі Савецкага Саюза, які распадаецца, у новую імперыю Расію").

Прамоўца спыніўся на дзейнасці беларускай дэлегацыі як публічнай, так і кулуарнай, адзначыўшы, што яна, дэлегацыя, распрацавала і вынесла на з'езд сваю пазіцыю: прызнанне суверэнітэту ўсіх рэспублік, якія прынялі Акт аб суверэнітэце, працяг работы Вярхоўнага Савета СССР пры ўмове змянення прынцыпу ратацыі. Аднак прапанова беларусаў выклікала нязгоду ў групе прэзідэнтаў, кіраўнікоў з'езда, асабліва Расіі; з'явіліся новыя праекты, у выніку чаго яна была знята.

У гэтых новых абставінах жыццёва важнымі накірункамі далейшага развіцця Беларусі з'яўляюцца: усталяванне і абарона суверэнітэту, дзяржаўных структур, уласнасці рэспублікі, яе рэсурсаў і тэрыторыі, правоў грамадзян. Стаіць задача хутчэйшага склікання нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе знайшлі б вырашэнне пытанні аб грамадзянстве, войску, нацыянальнай гвардыі, зямлі, мяжы, пракуратуры і шэрагу іншых. Іначай, "будзе расцягнута наша маёмасць, і рэспубліка шмат згубіць".

Удзельнікі прэс-канферэнцыі крытычна паставіліся да заявы Б. Ельцына аб тым, што ён будзе бараніць інтарэсы рускіх за межамі Расіі. А. Трусаў, намеснік старшыні парламенцкай апазіцыі, лічыць яе цалкам недэмакратычнай. А, як заўважыў М. Крыжаноўскі, намеснік старшыні рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, з прынятай на з'ездзе Дэкларацыі правоў і свабод чалавека вынікае, што калі два чалавекі заяўляюць, што парушаюцца іх правы, гэта дае падставу для ўмяшання ва ўнутраныя справы данай дзяржавы. Ці не лепей было прыняць Дэкларацыю ААН аб правах чалавека, дзе ўсё пастаўлена на свае месца? "Інтарэсы тых грамадзян, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, павінна бараніць Канстытуцыя БССР" (З. Пазняк).

На пытанне аб прыярытэтах беларускай дыпламатыі адказаў П. Садоўскі, старшыня Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных зносінах. Асноўны напрамак — Чарнобыль, стварэнне на тэрыторыі рэспублікі бяз'ядзернай зоны, палітыка нейтралітэту; партнёры — Германія і Польшча, а таксама Прыбалтыка, Украіна, Малдова. І Ізраіль. У гэтай краіне хутка будзе пад сотню тысяч беларусаў, і тут трэба "ісці насустрач рэальнасці". П. Садоўскі скептычна ставіцца да супрацоўніцтва з далёкімі краінамі, Паўднёвай Карэяй і Кітаем.

З. Пазняк засяродзіў увагу прысутных на тым, што "перад абліччам імперскай палітыкі, якая нам пагражае, элементы нацыянальнай згоды выяўляюцца ў грамадстве. Элементы гэтай згоды закладзены ў праграме БНФ, які заўсёды аддзяляў ідэалогію ад яе носьбітаў". Ён заклікаў не чыніць ніякіх праследаванняў людзей толькі за членства ў партыі. Ніякага вандалізму, ніякага разбурэння помнікаў. Трэба даць магчымасць грамадству змяніцца. Прынцыпы дасягнення кансенсусу — прынцыпы гуманістычнай палітыкі.

Апроч пералічанага, на гэтай прэс-канферэнцыі да журналістаў быў даведзены пункт гледжання апазіцыі па многіх іншых важных момантах сучаснасці, у тым ліку і эканамічных.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.




**121**

Кажа: "Маленькая жанчына, можа і кухаркі іншай ня варта, але за тое, браце, зямлі — больш 600 гэктараў па старым часе. Яна нават зьбіралася на мае дакументы перапісаць. Хто ведае, можа быць старыя часы вернуцца й яна атрымае зямлю..."

— А ты станеш графам, — засьмяяўся я й паглядзеў на яго даўгія работніцкія рукі, на якія былі нацягнуты вузкія, гатовыя трэснуць рукавічкі... Добры "граф", няма чаго казаць... Я катаўся на пасьцелі са сьмеху.

— А між тым, калі падумаць, братка, гэта вельмі сумна, — сказаў Тугоўскі. Нарэшце размова ськівавала на цікавійшую яго дарогу. — Думаў на лекцыі залатазубага прафэсара капіталістычнай эканомікі. Той самы Бурак не хацеў нават размаўляць аб зьмесце лекцыі прафэсара і запісваў яго кожнае слова — як папугай. Прафэсар казаў аб патрэбе багацець і карысьці ад гэтага для ўсяго грамадзянства...

— Ну, вось больш... Бурак затое й думаў разбагацець.

— А можа быць, "айцец" Кірыла, гэта й трэба? Я заўсёды зайздросьціў такім людзям, як Бурак, якія ні аб чым ня думаюць, з неба зор не хапаюць, у пясок філязофіі і непатрэбных пытаньняў галавы ня сунуць, а жывуць сабе толькі для таго, каб жыць. Яны бяруць ад жыцьця яго насалоды, яны сьмяюцца здаровым сьмехам, і здаровы румянец грае на іх тварах. Яны гатовы нават пакахаць графіню, зусім ня бачучы ў гэтым нічога камічнага. Бурак так перакананы ў сваім праве на жыцьцё й яго радасьці, што над сабой зусім не раздумвае. Калі-б яго прывялі ў паркетную залю, напоўненую арыстакратамі, дык, так я думаю, ён спакойна

**122**

глядзеў-бы навокал сябе і спакойна калыпаў-бы пальцам у сваім носе.

— Ня ў гэтым справа, — прадоўжываў Кірыла. — Калі-б гэты Бурак заставаўся самім сабой і нават сярод арыстакратаў калыпаў-бы пальцам у носе, гэта можна было толькі вітаць. Але калі гэты просты палескі мужык Бурак нацягівае на сваю шырокую руку рукавічкі, калі ён хоча корчыць з сябе арыстакрата, графа, — тады гэта толькі малпаваньне. Над гэтым трэба толькі сьмяяцца, праз сьлёзы. Чаму? Таму, што гэты чалавек — косьць ад косьці, кроў ад крыві простага народу, ня хоча сьці з ім, ня думае змагацца за яго долю, ня хоча стаць у шэраг грамадскіх працаўнікоў... Ня хоча ўва імя агульнага шчасьця... А калі гэта думае Бурак — самы запраўдны тыповы беларус-селянін, дык што казаць тады пра нашых людзей мястовай культуры... Запраўды, дзядзька Тугоўскі, стане страшна, калі падумаеш над лёсам беларускай грамады ў Празе. Мы хочам, каб запахла мёдам, каб сонца заглянула, нарэшце, у шырокае вакно новай сялянскай хаты, але скажы ты мне: хто будзе той Майсей, які выведзе нас з цемры няволі ў зямлю абяцаную?

— Ты, я бачу, вельмі расчараваўся, "айцец" Кірыла. Няўжо ў нашай Грамадзе толькі кар'ерысты ды здраднікі? Няўжо ня знойдзецца з праскіх студэнтаў ні аднэй значнай сілы, якая потым аб'яднае нас усіх пад адзіным сьцягам і павядзе за сабой, як Майсей? Не, даражэнькі: я хачу яшчэ верыць, што гэта будзе.

— Эх, дзядзька Тугоўскі, памятаеш біблейскі выраз, што можа быць добрага? Павер мне, што з нашага праскага Назарэту ня выйдзе ні аднаго прарока.

**123**

— А наша "Сацыялістычная Грамада", "айцец" Кірыла?

— Наша Грамада? — усьміхнуўся Кірыла. — Яе ўжо больш няма.

— Як так? — спыніўся ў карыдоры ад зьдзіўленьня Тугоўскі.

— Яна развалілася, даражэнькі. Мы больш ня можам давяраць Тамашэвічу. Што Тамашэвіч? Беларуская балалайка і ўсё. Я хачу стварыць новую грамаду з моладзі, якая яшчэ ня ўмерла ў балоце кар'еры і асабістых спраў. Вось з гэтай мэтай я і прышоў да цябе. Я хачу, каб ты запісаўся ў нашую новую, запраўды працоўную групу.

— Дзякую за давер. Калі я падыйду да вас, тады запісывай... А Вярхоўская як?..

— Вярхоўская? Што пра яе ўспамінаць? Дачка папа-інтэлігэнта. У нашай групе ня будзе ні аднаго, хто радніўся ад гэтых інтэлігэнтаў.

— Чаму ты інтэлігэнтаў так ня церпіш? — зьдзівіўся Тугоўскі.

— Мне здаецца, ад іх усё няшчасьце на зямлі. Ты падумай: капіталістаў на ўсім сьвеце, можа быць, набярэцца дзесятак, ня болей. Іх-бы лёгка было зьнішчыць, ды яны не маглі-б шкоды такой вялікай даць, каб ня гэтая мільёная армія інтэлігэнтаў, гэтых слугак капіталізму. Яны прызвычаіліся жыць у лепшых умовах, чым іншыя, яны крычаць аб камфорце, яны тварылі буржуазную культуру. Яны, гэтыя інтэлігэнты, я перакананы, абселі каля смачнага капіталістычнага пірага... І спрабуй зараз гэты пірог зьнішчыць, што стане з гэтай чорнай, тараканнай арміяй?

— "Айцец" Кірыла, — зьдзівіўся Тугоўскі такому парадоксу Кірылы, — мне здаецца, у цябе неправядловае разуменьне слова "інтэлігэнт".

**124**

Спачатку трэба высьветліць, каго ты называеш "інтэлігэнт".

— Ай, мне ўжо ня хочацца спрачацца. Мы й так з табой столькі прагутарылі на палітычныя тэмы, што аж вусны перасохлі. Пойдзем у пакой.

— Інтэлігэнт, — казаў ён, уваходзячы ў інтэрнат, — па-майму, той чалавек, які прадае сваю ўмысловую працу.

Яны ўвайшлі зноў у шумны цёплы пакой. Сьпевы, сьмех, лаянкі зноў агарнулі іх і прымусілі запамятаць аб усей размове. Каля пасьцелі астральнага чалавека стаяла некалькі чалавек, якім ён глядзеў на руку.

— Астралёг, — шапнуў на вуха Кірылу Тугоўс Кірыла падыйшоў і скептычна пачаў усьміхацца... Астральны чалавек заўважыў гэта й павярнуўся да яго:

— Вы скептык... Але вы дарэмна ўсьміхаецеся. Я бачу на вашым твары ўвесь ваш лёс. Я ведаю ваш характар, хоць бачу вас першы раз. Хочаце, я пагадаю вам.

— Ну, ну, калі ласка, спрабуйце, — засьмяяў Кірыла.

Астральны чалавек дастаў з-пад падушкі кніжачку, якую калісьці даваў Тугоўскаму, на абложцы якой быў намаляваны Сатурн с кальцом, і пачаў шукаць, пад якой плянэтай ён радзіўся.

— Ведаеце што, — падняў праз хвіліну задуманыя вочы астральны чалавек на Кірыла, — вы радзіліся пад Сатурнам!

— І я радзіўся пад Сатурнам! — засьмяяўся Кірыла. — Тугоўскі, чуеш?

— Так, так, як і грамадзянін Тугоўскі. Выходзе, у вас аднолькавая доля з грамадзянінам Тугоўскім.

**125**

— Вось як... А што знача наогул: радзіўся пад Сатурнам, як вы кажаце?

— Гэта знача: мець у сабе такія рысы характару, якія з старых часоў людзі прыпісвалі гэтай плянэце. У пэўныя часы, калі плянэта Сатурн знаходзіцца ў найвышэйшым пункце сваей кульмінацыі, яна аказвае асабліва свае ўплывы, як месяц аказвае ўплывы на прылiў і адліў мора, і тады ў чалавека праяўляюцца асабліва гэтыя сатурнаўскія рысы характару... Што гэта за характар, я вам магу таксама сказаць. Людзі, радзіўшыяся пад Сатурнам, звычайна ня выносяць падуладнасьці, не пужаюцца думкі аб сабе грамады, але разам з тым баяцца быць сьмяшнымі, недаверчывы, працавіты, любяць земляробства і навукі, ня любяць войны і жаўнераў...

— Вось гэта правядлова, — прарваў астралёга Кірыла. — Я цярпець не магу ні вайны, ні жаўнераў...

— Пачакайце, слухайце далей...

— Людзі, радзіўшыяся пад Сатурнам, абыякавыя да сям'і і дзяцей.

— Гэта неправядлова, — зазначыў Тугоўскі.

— Маўчы... Правядлова! — крыкнуў Кірыла. — Я цярпець не магу ні сям'і, ні дзяцей. Мяшчанства, брат!

— Людзі, радзіўшыяся пад Сатурнам, цікавыя да ўсяго і разам з тым сумныя. Маланхолія заўсёды кладзе на іх твар сваю пячатку. Гэтыя людзі таксама нічым не задаволены, ні адна партыя ня будзе ім да душы, ні адзін палітычны лад не задаволе іх. Гэта вечна: усім не задаволены, усё крытыкуючыя людзі, рэвалюцыянеры па духу.

— Брава! — закрычаў Тугоўскі. — Вось гэта правядлова. Бачыш, "айцец" Кірыла, як цябе ра-

**126**

забралі па костачках! Ты вечны рэвалюцыянер. Што ты на гэта скажаш? Знамяніта ён гадае. Няма чаго казаць.

— Ну, а цяпер, — прадоўжываў астральны чалавек, — дазвольце вашую левую руку, прыцісьніце вялікі палец да далоні.

Кірыла ня мог.

— Вось так, вось так, — паказываў астралёг. — Ну добра. — Ён пачаў пільна ўглядацца ў рысы на руцэ. — Вось што я вам скажу, — прарваў ён цішу, — як вы сабе хочаце: верце мне ці ня верце, а вы доўга жыць ня будзеце. Лінія жыцьця ваша вельмі кароткая і паказывае, што вы будзеце хварэць. Вы памрэце ад цяжкой хранічнай хваробы, запэўняю вам. Мне здаецца, я ўгадаю нават, ад якой хваробы... У вас хворыя лёгкія. Скажыце, вы кашляеце?

— Кашляю...

— І макрота ёсць?

— Ёсць.

— Правядлова. Значыць, угадаў... І вось ужо ёсьць пачаўшыя сухоты. Паверце мне, старому сухотніку: я не хачу вас пужаць. Я не хачу вам пагоршыць настрой... Я бачу на вашым твару ўсьмешку, але вы носіце ў сваіх грудзях сум! Будзь я не астралёг, калі гэта ня так!

— Ну, адносна хваробы, я думаю, вы памыліліся, — сплюнуў Кірыла. — Характар яшчэ азначылі туды-сюды.

— Ня думаю, каб я памыліўся... Ну добра... Я

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 37.**

**127**

быў бы вельмі ўсьцешаны, каб я памыліўся і каб уся навука астралёгія і хірамантыя нічога ня значылі-б, разам узятыя.

Кірыла падзякаваў і выйшаў, таксама скептычна ўсьміхаючыся.

— А ўсё ж ткі лоўка ён гадае, — казаў Тугоўскі.

— Дурніца, — кінуў сярдзіта Кірыла, — так вось, знача: у нядзелю прыхадзі на вечарыну ў "Чэска-Рускую Едноту". Тамашэвіч хоча зьдзівіць чэхаў. Паглядзім, што з гэтага будзе. Ён хоча зацягнуць на беларускі грунт аднаго расейцапрафэсара, беларуса па паходжанню, які возьме на сябе кіраваньне вечарам. Дэклямаваць будзе таксама Вярхоўская... Словам, прыхадзі. — Ён разьвітаўся, пацісьнуў руку астральнаму чалавеку і, праваджаемы вясёлымі прывітаньнямі ўсіх прысутных, выйшаў з інтэрнату...

## V

"Дачка папа, — думаў Тугоўскі, застаўшыся адзін пасьля адходу Кірылы. — Ну няўжо гэта магчыма? Як жа пасьля гэтага растлумачыць яе сацыялістычныя перакананьні? Магчыма, нейкія вялікія рэвалюцыйныя падзеі мелі ўплыў на яе жыцьцё і вытвар яе сьветапогляду". І ён пачаў маляваць сабе гумарыстычны малюнак свайго каханьня да дачкі папа. Запраўды, як быў-бы зьдзіўлены поп, каб яго дачка прывяла-б у хату мужа — сына чорнаработніка, з якім яна ўзяла шлюб па правілах царквы... Магчыма, як сацыялісты, яны запісаліся-б толькі ў шлюбным аддзеле праскай мястовай управы.

**128**

Тугоўскі маляваў сабе малюнак за малюнкам свайго побыту ў доме Вярхоўскай і ўсё больш і больш пачынаў разумець, што каханьне яго безнадзейнае, што кахаць дачку папа ён ня можа. Але, з другога боку, ён чуў, што каханьне ня так лёгка адкінуць, што Вярхоўская напоўніла яго ўсю істоту, усе яго думкі і крокі сваім прыгожым вобразам, што ён кахае яе незалежна ад таго, хто яна такая: дачка папа ці якога-небудзь чорта. Калі-б толькі на яго каханьне яна адказала узаемнасьцей, калі-б яна пакахала яго, тады ня страшны былі-б лаянкі яе бацькі-папа ці якія-небудзь іншыя перашкоды на сьвеце... За ўсё мацней на сьвеце судзяць двух маладых, гарачых сэрцаў. Толькі-б пакахала яна яго нарэшце. У яе каханьні засталася цяпер яго адзіная надзея. Што значыла для яго грамадская справа і ўсе справы яго як грамадскага дзеяча, калі ён быў нешчасьлівы, калі яму бракавала самага звычайнага маленькага асабістага шчасьця. У рэшце рэшт кожны чалавек жыве для самога сябе. Праўда, ён згодны з Кірылам, што ня ўсё толькі для самога сябе — трэба падумаць аб агульных справах, трэба думаць тады, калі палагоджана сваё асабістае. Пакуль чалавек чуе сябе нешчасьлівым, ніякія грамадскія справы не дадуць яму шчасьце. "Людзі на зямлі адны — вось бяда!" — казаў калісьці філёзаф, і запраўды, нягледзячы ні на якія грамадскія арганізацыі, справы, хаўрусы, — у кожнага чалавека ёсьць куток свайго "я", цёмны куток, куды ніхто не заглядывае. Чым больш чалавек нешчасьлівы — тым больш ён адчувае адзіноту, тым больш ён бача, што грамадскія арганізацыі — пусты гук, простая фікцыя! Але ён ня хоча быць адзінокі, ён ня хоча быць нешчасьлівы.

ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ ВАЙНА?

## 1939 ГОД У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

Што знамянуе сабой для беларусаў 1939 год?

Аб'яднанне беларускага народа ў адзінай, хай сабе і таталітарнай, дзяржаве? Здзяйсненне векавых мараў беларускага народа? Ці ліквідацыю апошняга выдатнага незалежніцкага цэнтра, цэнтра дэмакратычнай думкі і рэштак нацыянальнага адраджэння? На гэтыя складаныя пытанні няма і не можа быць адназначнага адказу.

Пытанне аб драматычных падзеях верасня 1939 года, звязаных з так званым "вызвольным паходам Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь", з'яўляецца адной з выразных "белых плям" у беларускай гістарыяграфіі. На жаль, да сённяшняга дня не перагледжана ад пачатку да канца сфальшаваная тэорыя, пастаўленая яшчэ ў сталінскія часы, аб шчаслівым і радасным вызваленні заходніх беларусаў ад панскага прыгнёту.

У сапраўднасці ж аб'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі адбылося ў выніку змовы паміж фашысцкай Германіяй і сталінскім СССР. Аб'ектыўна яно адпавядала нацыянальным інтарэсам беларускага народа. Аб'яднанне ажыццявілася, на жаль, у рамках таталітарнай камуністычнай дзяржавы, але яно прыйшло, і гэта факт, безумоўна, станоўчы. У сталінскай імперыі адзіная бацькаўшчына беларусаў стала аб'ектам шматлікіх злачынных эксперыментаў. Сярод іх найбольш брыдкімі былі: прымусовая русіфікацыя і дэнацыяналізацыя беларусаў, знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі і інтэлектуальнай эліты нацыі, а таксама замена нацыянальнай свядомасці на камуністычную лаяльнасць і выхаванне бяздушнага нацыянальна абыякавага "гома-савецікуса". Адзінае, што сведчыла аб беларускасці падобнага чалавечага стварэння, быў запіс у пашпарце, які практычна не меў ніякага значэння.

Дык што ж усё-такі знаменаваў сабой 1939 год для беларускага народа? Што тут пераважае: станоўчае ці адмоўнае? Які ўплыў мелі падзеі гэтага года на далейшыя лёсы нашага народа?

Год гэты, год пачатку другой сусветнай вайны, знаменаваў сабой кульмінацыю адвечнага польска-рускага сапернiцтва за ўплыў і кантроль над беларускімі землямі. Маладой польскай дзяржаве, адроджанай пасля 124 гадоў няволі, не ўдалося адвярнуць бег гістарычных падзей і аднавіць свае ўплывы на колішніх землях былой шляхецкай Рэчы Паспалітай. Польскі месіянізм канчаткова прайграў сваю апошнюю бітву месіянізму расейскаму, але і для таго апошняга час быў адпушчаны вельмі кароткі. Гарбачоўская перабудова выклікала першы выразны крызіс савецкай імперыі, але неўзабаве павінны падысці і іншыя.

Падзеі 1939 года нельга зразумець без кароткага экскурсу ў характар савецка-польскіх узаемаадносін міжваеннага перыяду, таму што ўзаемаадносіны гэтыя будаваліся за кошт сапраўдных жыццёвых інтарэсаў беларускага народа.

Канец польска-савецкай вайны 1919—1920 гадоў для беларусаў знаменаваў сабой прыход вельмі цяжкіх часоў. Здавалася, што надзеі на незалежнасць бацькаўшчыны былі беспаваротна пахаваны і перад нашым народам замаячыла рэальная перспектыва знікнення з этнаграфічнай карты Еўропы. Польска-савецкая граніца 1921 года, устаноўленая згодна з падпісаным у Рызе пагадненнем, падзяліла беларускі народ амаль на дзве роўныя часткі: польскую і савецкую. Для беларусаў гэта была найвялікшая нацыянальная трагедыя, і таму кожны свядомы беларус разглядаў яе ў якасці часовай. Аднак граніца гэтая не задавальняла нацыянальныя і палітычныя імкненні і тых, хто яе ўстанавіў, — палякаў і савецкіх камуністаў. Абодва бакі разглядалі яе ў якасці часовай і шукалі толькі нагоды для яе змены. Польшча Пілсудскага ставілася да зямель Усходняй Беларусі, як да часткі былой Рэчы Паспалітай, на якой час "раздзелаў" яшчэ не скончыўся. А сталінская Расія трактавала Заходнюю Беларусь у якасці часткі былой Расійскай імперыі, на якую камуністы маюць усе правы. Як бачым, усе ўдзельнікі канфлікту не разглядалі граніцы 1921 года ў якасці сталай і шукалі толькі магчымасці, каб ажыццявіць яе рэвізію.

Мэта абедзвюх акупацыйных дзяржаў была практычна аднолькавая: дэнацыяналізацыя і пераслед беларусаў. Метады, якія яны выбралі, былі, аднак, розныя. Калі палякі без вялікіх роздумаў прыступілі да ажыццяўлення прымітыўнай тактыкі перасведу ўсяго беларускага, дык Савецкая дзяржава абрала вельмі двурушніцкую тактыку. Вонкава [illegible]ністычная партыя абвясціла сябе [illegible] якасці галоўнага хаўрусніка беларускай справы. З дапамогай беларусізацыі камуністы змаглі заваяваць сімпатыі і перацягнуць на свой бок большасць беларускіх незалежніцкіх дзеячаў. Але ў сапраўднасці была гэта ўсяго толькі спроба [illegible]явіць інтэлектуальную эліту беларуск[illegible]цыі, раззброіць яе з дапамогай фікцы[illegible]х уступак і пазней жорстка расправіцца з ёю. Тактыка камуністаў прывяла да пракамуністычнай арыентацыі заходнебеларускага нацыянальнага руху, да з'яўлення ў Заходняй Беларусі шырокіх і шчырых сімпатый да БССР, да нараджэння ілюзій існавання на Усходзе сапраўднага беларускага нацыянальнага дому. Беларускіх дзеячаў, якія добра разумелі сутнасць сталінізму, было няшмат, але ўплыў іх увесь час пашыраўся. Менавіта ў такіх абставінах у Заходняй Беларусі прыйшла ў 1939 годзе Чырвоная Армія, а разам з ёю і тыя, хто ўзяў на сябе адказнасць у хуткім часе ажыццявіць крывавую чыстку сярод беларусаў і правесці іх саветызацыю.

Сталін і яго памагатыя намагаліся знішчыць свядомую частку беларускага народа і ў выніку ўтварыць шэрую масу паслухмяных статыстаў, патрэбных для ажыццяўлення эксперымента стварэння новага тыпу таталітарнай дзяржавы. Існаванне на Усходзе фармальна незалежнай беларускай сацыялістычнай дзяржавы з'яўлялася ўсяго толькі часткаю велізарнай сістэмы палітычнай дэмагогіі, якая была ўтворана Сталіным. Суверэннасць Беларускай ССР з'яўлялася фікцыяй, і па сутнасці сітуацыя тут нічым не адрознівалася ад сітуацыі шэраговай вобласці РСФСР ці Украіны.

У момант прыходу Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі над краінай, як тая злавесная хмара, вітаў лёс выдатных сыноў беларускага народа, інтэлектуальнай эліты нацыі, якія былі паверылі камуністам і загінулі ў сталінскіх турмах. Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Цвікевіч, Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Мамонька, Аляксандр Заяц, Уладзімір Пракулевіч — усё гэта ахвяры першай хвалі сталінскіх антыбеларускіх рэпрэсій. Другая хваля забрала жыццё амаль усіх дзеячаў камуністычнага руху Заходняй Беларусі. Загінулі правадыры славутай "Грамады", былыя дэпутаты польскага Сойму Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын і іншыя. У кастрычніку 1935 года спецыяльныя атрады НКУС у прыгарадзе Мінска ноччу акружылі партыйную школу КПЗБ і арыштавалі ўсіх яе слухачоў. Большасць з іх у хуткім часе была расстраляна як польскія шпіёны. Вядомы гісторык і былая дзяячка КПЗБ Аляксандра Бергман у размове са мной апавядала, што яна доўга не магла зразумець, чаму з такой лёгкасцю польскія ўлады амнісціравалі беларускіх камуністычных дзеячаў. Вытлумачы[illegible] гэта былы дырэктар аднаго з [illegible]ьскіх астрогаў. Паводле яго слоў, маршал Пілсудскі каменціраваў гэтую сітуацыю наступным чынам: "Нашто мне рукі брудзіць аб гэтых камуністаў, няхай іх забівае Сталін, яму гэта прыносіць задавал[illegible]не".

Галоўная прычына такіх зл[illegible]ных адносін да адданых камунізму дзеячаў у тым, што тэрор стаў універсальным сродкам кіравання не толькі ўнутры Савецкай дзяржавы, але і міжнародным камуністычным рухам. Ужыванне паўсюднага тэрору на Беларусі знаменавала пачатак новага этапу сталінізму, этапу татальнага застрашэння грамадства і безварунковага падпарадкавання народа кіраўніцтву партыі.

Калі 17 верасня 1939 года савецкія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Заходняй Беларусі, сталінскі рэжым перажываў апагей сілы і магутнасці сваёй улады. Агромная камуністычная імперыя прыступіла да падзелу свету ў саюзе з гітлераўскім III рэйхам. Здавалася, што ніхто і нішто не будзе ў стане затрымаць Сталіна.

Так званае "вызваленне" Заходняй Беларусі мела сваю спецыфіку і адрознівалася ад "вызвалення" Заходняй Украіны.

З 202 тысяч квадратных кіламетраў акупіраванай тэрыторыі даваеннай Польшчы беларусам належала больш паловы, 108 тысяч квадратных кіламетраў, а Украіне — толькі 88 тысяч. Беларуская ССР павялічыла сваю тэрыторыю амаль удвая — з 127 тысяч да 235 тысяч квадратных кіламетраў. Удвая павялічылася таксама колькасць насельніцтва БССР і дасягнула 10,5 мільёна чалавек. Для Украіны далучаныя тэрыторыі складалі толькі 15 працэнтаў яе тэрыторыі, а насельніцтва — 20 працэнтаў яе насельніцтва.

Гэтая спецыфіка далучэння Заходняй Беларусі да Усходняй, на думку савецкіх улад, павінна была з'яўляцца варункам лаяльнасці беларускіх нацыянальных незалежніцкіх дзеячаў да новых улад. У сувязі з гэтым акупацыйныя ўлады вырашылі аб'яднаць намаганні савецкай прапагандысцкай машыны і галасы тых камуністычных беларускіх дзеячаў, што ацалелі ў ходзе шматлікіх сталінскіх чыстак. Гэта павінна была быць гучная прапагандысцкая кампанія. Мэта яе заключалася ў абвяшчэнні прыходу новай эры ў гісторыі беларускага народа, эры "шчаслівага нацыянальнага адзінства пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскай камуністычнай партыі".

У сапраўднасці ж нацыянальныя імкненні беларусаў і сталінская палітыка анексіі новых тэрыторый не мелі між сабой нічога супольнага. Для Сталіна так званае "вызваленне" беларусаў мела ўсяго толькі стратэгічнае значэнне і знаменавала падпарадкаванне ўплывам сваёй ідэалогіі новых мас людзей.

Традыцыйныя сталінскія метады ажыццяўлення ўлады знайшлі сваё прымяненне ў дачыненні да ўсіх нацыянальных груп, што жылі на далучаных тэрыторыях. У гэтым месцы мне хацелася б сфармуляваць галоўны тэзіс: тэрор, застрашэнне і іншыя формы праследу ў больш-менш роўнай ступені закранулі ўсе нацыянальныя меншасці, што жылі на акупіраваных тэрыторыях (яўрэяў, украінцаў, літоўцаў і інш.). Аднак для беларускага грамадства рэпрэсіі гэтыя мелі куды больш згубны і трагічны характар. На Беларусі ў 1939 годзе была знішчана вельмі тонкая і хрупкая праслойка інтэлектуальнай эліты нацыі. Загінулі тыя, хто быў носьбітам ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Сталінская рэпрэсіўная машына на доўгія гады затрымала паступовае развіццё беларускай нацыі, паставіла беларусаў на край біялагічнага вымірання, з'явілася пагрозай існаванню беларускага народа.

**Мікола ІВАНОЎ.**

# ЦЯПЕР ВЕДАЕМ, ЯК ВАМ ЦЯЖКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Украіну. А прычына ў тым, што украінскіх эмігрантаў болей. З чаго я і раблю высновы, не адкрываючы Амерыку, што дасведчанасць грамадскай думкі аб становішчы ў той ці іншай краіне ў значнай ступені залежыць ад яе дыяспары.

Падчас цырымоніі перадачы грузу ў Аксакаўшчыне Антон Кульчын згадаў прысутным, што ФРК мае на ўвазе і аздараўленне дзяцей з Беларусі, пацярпеўшых ад аварыі, непасрэдна ў Канадзе, тым не менш:

— Мы абмяркоўвалі гэтае пытанне ў таварыстве "Радзіма". На мой погляд, тых, хто выязджае, — сотні, а тых, каму патрабуецца неадкладная дапамога, — тысячы. Да таго ж расход немалы, білеты, скажам, на самалёт каштуюць дорага і г. д. А ці не было б больш карысці задзейнічаць гэтыя выдаткі на матэрыяльную помач бальніцам, на лячэнне?

Такі пункт гледжання падтрымаў галоўны ўрач клінікі Сяргей Карыцька:

— Гэта матэрыяльная і фінансавая дапамога магла б выкарыстоўвацца, як мне бачыцца, двума шляхамі: набыццё медыцынскага абсталявання, дзякуючы якому была б магчымасць лячыць тысячы і тысячы дзяцей, і стварэнне новых лячэбных цэнтраў. Безумоўна, паездкі беларускіх дзяцей за мяжу — урок дабрыні, паразумення паміж намі і светам. Але ставіцца да гэтага трэба надзвычай адказна. Часта здараецца так, што дзеці едуць за мяжу на адпачынак, не прайшоўшы па месцу пражывання ніякага медыцынскага агляду, адбору. Некаторым жа проста супрацьпаказаны такія падарожжы. Нядаўна трапілі ў нашу клініку дзве дзяўчынкі, у якіх перад выездам у Грэцыю рак шчытападобнай залозы знаходзіўся ў скрытай форме і нічым сябе не выяўляў. І калі б тады своечасова быў праведзены медыцынскі агляд, ім можна было б яшчэ дапамагчы. А так... спякотнае сонца Грэцыі абвастрыла хваробу настолькі, што мы ўжо не ў стане былі даць рады.

Нялішнім будзе дапоўніць пункт гледжання галоўнага ўрача НДІ: у групы па аздараўленню ў замежных краінах трапляюць нярэдка і тыя, хто не ў першую чаргу павінен там быць. Але гэта — падстава для іншае размовы.

У час перадачы дарункаў старшыня ФРК запэўніў прысутных, што рух па збору сродкаў на гэтым не канчаецца. Тым болей, што на рахунку ў банку засталося яшчэ каля 8 тысяч долараў у якасці добрага працягу. У сувязі з гэтым я пацікавіўся, якой выглядае будучыня федэрацыі. Не сакрэт, што беларускія сябрыны замежжа старэюць...

— У нас ёсць клопат, звязаны з недахопам моладзі ў арганізацыі. Але ж магчыма мы атрымаем папаўненне з ліку новых эмігрантаў, якія прыязджаюць цяпер з СССР. Гэта добра для нас, бо беларуская і руская калоніі ў Канадзе невялікія. Аднак перад тым як ехаць, чалавек мусіць добра падумаць і сам прыняць рашэнне. У нас вялікі працэнт беспрацоўных, і тым, хто прыязджае, будзе цяжка. Асабліва, калі ў чалавека няма спецыяльнасці. Што рабіць артыстам, мастакам? Уладкоўваюцца кім папала, мыюць пасуду і г. д. Адсюль і незадавальненне, хоць жывуць, безумоўна, лепш, чым на Радзіме. І я ведаю выпадкі, калі некаторыя збіраюцца назад.

У Галоўнае праўленне прыходзіць шмат пісьмаў не адно з Бацькаўшчыны, а і з іншых куткоў Савецкага Саюза з просьбай прыняць на жыхарства. Ды мы, грамадская арганізацыя, не маем магчымасці гэта зрабіць, няма такіх сродкаў, — разводзіць рукамі А. Кульчын.

Пасля цырымоніі перадачы каштоўнага грузу паўночнаамерыканскія беларусы былі запрошаны да знаёмства з клінікай, яе лабараторыямі, персаналам і малалетнімі пацыентамі. У гэтай працэдуры найбольш складаным было адказаць самому сабе на пытанне: за што пакутуюць гэтыя маленькія людзі, ахвяры чыіхсьці жудасных праліках? "Так, цяпер мы ведаем, як вам цяжка даводзіцца", — прызналіся на развітанне пасланцы ФРК.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## ЗДЫМАЕЦЦА КІНО





**На кінастудыі "Беларусьфільм" ідуць здымкі новай стужкі "Праталіна" паводле аднайменнага рамана Б. Казакова. Гэта другая рэжысёрская работа Дзмітрыя Зайцава, вядомага гледачу ў якасці аднаго з таленавітых апаратараў беларускага кіно. Першая — поўнаметражны фільм "Хам" — атрымала высокую ацэнку на міжнародным кінафестывалі ў Іспаніі. Аднадумцамі Д. Зайцава ў новай рабоце сталі аператар Таццяна Логінава і мастак Валерый Назараў, а таксама акцёры Іна Хрулёва, Сяргей Латун, Анатоль Васільеў, Аляксандр Сайко і іншыя.**
**Фільм раскажа пра каханне і вернасць, мужнасць і справядлівасць. Таму здымачная група спадзяецца, што гэта вострасюжэтная і адначасова рамантычная гісторыя прыцягне ўвагу самага шырокага гледача.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэжысёр-пастаноўшчык Дзмітрый ЗАЙЦАЎ на здымачнай пляцоўцы; выканаўцы галоўных ролей Сяргей ЛАТУН (старшына Судзенка) і Іна ХРУЛЁВА (Маша).**

**Фота У. ШУБЫ.**

## АДКРЫЦЦЁ СЕЗОНА

Эканоміка і мастацтва — не такія ўжо несумяшчальныя рэчы. Артысты і кіраўніцтва опернага тэатра Беларусі адчулі гэта на сабе ў поўнай меры. Эканамічныя праблемы, што пасыпаліся на тэатр, які ніколі не хадзіў у мільянерах, прымусілі калектыў прыняць нялёгкае рашэнне — не выязджаць на летнія традыцыйныя гастролі.

Для адкрыцця новага 59-га тэатральнага сезона ў Дзяржаўным ордэна Леніна акадэмічным тэатры оперы і балета Беларускай ССР выбрана опера С. Пракоф'ева "Вайна і мір". Не выпадкова, вядома. І не толькі таму, што назва актуальная — супала з сённяшнімі падзеямі, а таму, што яшчэ не скончыўся год святкавання 100-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага кампазітара С. Пракоф'ева.

Спектакль ідзе ў тэатры з 1985 года. Гэта эфектнае тэатральнае відовішча, манументальны спектакль, у якім занята амаль уся трупа. Паставіў яго заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР, народны артыст БССР С. Штэйн, музычны кіраўнік і дырыжор — вядомы савецкі музыкант народны артыст РСФСР Г. Праватораў. Сцэнаграфія спектакля заслугоўвае ўвагі: аўтарам яе быў таленавіты тэатральны мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Э. Гейдэбрэхт, які цяпер жыве і працуе ў Германіі. У спектаклі заняты вядучыя артысты тэатра.

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

Адначасова з пашырэннем цвёрдага "р" у нашым краі адбылася замена мяккага "ч" цвёрдым, які поўнасцю замяніў мяккі "ч" у цэнтральным рэгіёне і стаў пераважаць у паўднёвай частцы падзвінскага рэгіёна. З другога боку, з поўначы на поўдзень у гэты час пашыраецца мяккі "д" ("дзэканне"). Мяккі "д" поўнасцю замяніў цвёрды "д" у цэнтральным рэгіёне і паступова стаў пераважаць у гутарковай мове ўсходнеславянскага насельніцтва паўночнай часткі прыпяцкага рэгіёна. Наяўнасць мяккага "д" у гаворцы цэнтральнага і паўночнай часткі папрыпяцкага рэгіёнаў у XV—XVI стагоддзях засведчана пісьмовымі крыніцамі, у прыватнасці Літоўскай метрыкай ("дзедзич"), Слуцкім летапісам ("людзи"), пісьмамі ("поводзе"). З поўначы на поўдзень пашыраецца і такая рыса гутарковай мовы, як "аканне" — вымаўленне гука "о" не пад націскам як "а". Існаванне "акання" ў XV—XVI стагоддзях у гутарковай мове насельніцтва цэнтральнага і паўночнай часткі папрыпяцкага рэгіёнаў адлюстравана ў пісьмовых крыніцах — граматах Казіміра (Гародня), у Слуцкім летапісе, а таксама ў Слуцкім спісе Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1529 года. Беларуская мова пачала фарміравацца ў сярэдняй частцы нашага краю — у панёманскіх і падняпроўскіх землях. Тут перш за ўсё змяшаліся, злучыліся некаторыя рысы гаворак палешукоў і беларусцаў, утварыўся комплекс фанетычных рыс, для якога характэрны спалучэнне такіх элементаў, як цвёрдыя "р" і "ч", мяккі "д" ("дзэканне"), "аканне". На аснове гэтага спалучэння гукаў утварылася фанетыка сярэднебеларускіх (цэнтральнабеларускіх) гаворак — сярэднебеларускага (цэнтральнабеларускага) дыялекту беларускай мовы. Утварэнне фанетыкі сярэднебеларускіх гаворак адлюстравана ў пісьмовым помніку XVI стагоддзя — Статуце Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1529 года, розных яго спісах, асабліва Слуцкім (80-я гады XVI стагоддзя). Яно адлюстравана таксама ў граматах вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага і караля польскага Сігізмунда I, у кітабах — беларускіх тэкстах, напісаных арабскай графікай. Услед за фарміраваннем комплексу фанетычных рыс сярэднебеларускіх гаворак — сярэднебеларускага дыялекту, не пазней XVI стагоддзя ўтварыліся і комплексы фанетычных рыс беларускіх паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх гаворак ці дыялектаў. Комплекс фанетычных рыс беларускіх паўночна-ўсходніх гаворак стаў адрозніваца ад камплексу фанетычных рыс сярэднебеларускіх гаворак тым, што ў першым разам з цвёрдым "р" захаваўся і мяккі "р", разам з цвёрдым "ч" працягваў існаваць і мяккі "ч". Гэты комплекс трывала замацаваўся ў лаўднёвай зоне падзвінска-дняпроўскага рэгіёна, уключаючы басейн Заходняй Дзвіны і паўночную частку беларускага Падняпроўя. Што датычыцца паўночнай зоны ранейшага падзвінска-дняпроўскага рэгіёна (Пскоўшчыны, Цвярскога краю, Смаленшчыны), то яна не падпадала пад уплыў фанетычных навацый папрыпяцкага рэгіёна, а апынулася ў сферы ўздзеяння суседніх паўночных і ўсходніх гаворак, пашыраных у межах узнікшай Маскоўскай дзяржавы. Тут у XV—XVI стагоддзях пачалі фарміравацца гаворкі велікарускай мовы, слабець, змяншацца і знікаць такая рыса ранейшай гутарковай мовы, як мяккі "д" ("дзэканне"). Комплекс фанетычных рыс паўднёва-заходніх гаворак стаў адрозніваца ад комплексу фанетычных рыс сярэднебеларускіх гаворак тым, што ў першых разам з мяккім "д" захаваўся ў некаторых мясцовасцях і цвёрды "д", разам з "аканнем" сустракалася ў асобных мясцінах і "оканне". У комплексе фанетычных рыс паўднёва-заходніх гаворак з ранейшай мясцовай гутарковай мовы захаваліся дыфтонгі "уо", "іе". У паўднёвую зону папрыпяцкага рэгіёна паўночна-ўсходнія навацыі ("дзэканне", "аканне") не трапілі. Гэтая зона падпала пад уплыў размешчаных на поўдні ад яе паўднёва-заходніх і паўднёва-ўсходніх гаворак, якія разам з паўночнай гаворкай паўднёвай зоны папрыпяцкага рэгіёна склалі новую ўсходнеславянскую мову — украінскую, якая сфарміравалася ў гэты час. Ва ўкраінскай мове няма ні "дзэкання", ні "акання", якія сталі вельмі характэрнымі для беларускай мовы. У новай беларускай мове сталі значна часцей ужывацца суфіксы "к", "ак", ("як") і інш. (напрыклад, "авечка" замест "овца", "спявак" замест "певец", "беразняк" замест "березник"), сталі таксама выкарыстоўвацца новыя суфіксы, напрыклад, "чын", "б" ("дзяўчына" замест "девица", "сяўба" замест "сев"). У лексіцы беларускай мовы з'явілася шмат новых слоў — грамада, мужыкі, сведка і інш. Частка слоў беларускай мовы запазычана з іншых, неўсходнеславянскіх моў — ольскай, літоўскай, татар- … Да запазычаных адносяцца, у прыватнасці, словы "мовіць", "моц", "згода", "дойлід", "свіран", "казак" і інш.

### ЗМЕНЫ Ў ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ

…арэнне беларускай мовы суправаджалася значнымі зменамі ў традыцыйнай культуры насельніцтва нашага краю як матэрыяльнай, так і духоўнай. Узнікаюць новыя тыпы паселішчаў — мястэчкі, фальваркі, засценкі, ваколіцы. У значнай ступені змянілася планіроўка некаторых тыпаў сельскіх паселішчаў, у прыватнасці вёсак. Калі раней у іх панавала бессістэмнае (скучанае) размяшчэнне пабудоў або ў адзін рад, адну лінію (звычайна ўздоўж рэчкі, возера), то ў XV—XVI стагоддзях у заходніх раёнах паўночнай зоны папрыпяцкага, цэнтральнага і паўднёвай зоны падзвінскага рэгіёнаў шырока распаўсюджваецца новы тып планіроўкі вёсак. Пабудовы сталі размяшчацца часцей за ўсё ў два рады, дзве лініі. Пашырэнню такой планіроўкі вёсак садзейнічала развіццё сеткі сухапутных дарог і аграрная рэформа, якая пачала ажыццяўляцца ў другой палове XVI стагоддзя (1557 год). XV—XVI стагоддзі былі таксама часам інтэнсіўных змен у планіроўцы сялянскага двара. У гэты перыяд шырока распаўсюджваецца пагонны тып сядзібы. Пагонны двор з'явіўся спачатку ў папрыпяцкім рэгіёне ў працэсе фарміравання двухкамернай і трохкамернай жылой пабудовы, да якой прымыкалі гаспадарчыя памяшканні. Яны размяшчаліся ў адзін рад (пагон). З папрыпяцкага рэгіёна традыцыя пагоннай сувязі пабудоў пашырылася ў цэнтральны рэгіён і пачала там узаемадзейнічаць з традыцыяй размяшчэння пабудоў у сядзібе ў форме прамавугольніка. Такую сядзібу называюць вяночным дваром. У выніку ўзаемадзеяння, мадыфікацыі як аднароднага пагона (пры павелічэнні колькасці пабудоў), так і вяночнай сядзібы сфарміраваўся новы тып пагоннага двара — двухрадны. Ён пашырыўся ў заходняй частцы цэнтральнага рэгіёна, асабліва ў заходніх і паўночна-заходніх раёнах Панямоння. На ўсходзе цэнтральнага рэгіёна, у прыватнасці ў сярэдняй і паўднёвай частцы сучаснага беларускага Падняпроўя, сфарміраваліся Г-падобныя і П-падобныя формы сядзібы.

Значна змяніўся ў гэты час і традыцыйны жаночы касцюм. У паўночнай зоне папрыпяцкага рэгіёна, у цэнтральным і ў паўднёвай зоне падзвінскага рэгіёнаў шырока распаўсюджваецца андарак. Ён стаў састаўной часткай святочнага жаночага касцюма. У гэты час у комплексе жаночага адзення з'яўляецца таксама фартух. Гэтыя прадметы жаночага касцюма пашыраюцца спачатку ў заходніх, а потым і ва ўсходніх раёнах папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінскага рэгіёнаў.

У XV—XVI стагоддзях адбываюцца таксама змены і ў духоўнай культуры насельніцтва нашага краю. Узнікае новы жанр вуснай народнай творчасці — гістарычная песня. У найбольш ранніх гістарычных песнях апавядаецца пра набегі татараў. Гэтыя песні ўслаўляюць заступнікаў роднай зямлі, іх мужнасць і адвагу. У канцы XVI стагоддзя ствараюцца гістарычныя песні, у якіх апавядаецца пра ўзброеныя паўстанні народа супраць прыгнятальнікаў. Яны прасякнуты баявым настроем, адлюстроўваюць героіку народнай барацьбы. У тэкстах гэтых песень звычайна ёсць звароты ("Ой, вы, хлопцы, пане-браце") і клічы, у іх услаўляецца казак, адзначаецца яго смеласць і адвага. У XVI стагоддзі ў нашым краі распаўсюджваюцца новыя музычныя інструменты — скрыпка, цымбалы, ліра, дуда. Асабліва часта сталі выкарыстоўваць дуду і скрыпку. Яны звычайна гучалі ў час народных свят — каляд, валачобнага і інш., а таксама на вяселлях. Больш разнастайнымі сталі хрысціянскія вераванні. Апрача праваслаўя, у нашым краі ў гэты перыяд распаўсюджваецца і каталіцызм. Спачатку ў гарадах, а потым і ў вёсках пачалі будаваць касцёлы, пераважна ў заходніх раёнах, размешчаных каля Польшчы і этнічнай Літвы. Каталіцызм пашыраўся перш за ўсё сярод усходнеславянскага насельніцтва — заходнеславянскага (польскага) і балцкага, а затым і сярод часткі ўсходнеславянскага. Неўсходнеславянскае насельніцтва зрабіла ўплыў не толькі на рэлігію ўсходнеславянскага насельніцтва нашага краю, а таксама і на яго мову і іншыя часткі культуры. Яно прыняло ўдзел у фарміраванні беларускага этнасу.

### РОЛЯ НЕЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ ЭТНІЧНЫХ ГРУП У ФАРМІРАВАННІ БЕЛАРУСАЎ

На ўсходнеславянскае насельніцтва нашага краю, яго мову і культуру зрабіла ўплыў перш за ўсё блізкае яму па мове і культуры заходнеславянскае (польскае). Асобныя групы палякаў пасяляліся пераважна ў заходніх раёнах нашага краю. Першапачатковыя іх паселішчы былі невялікімі. Там звычайна жыло служылае насельніцтва (дробная шляхта). Невялікія паселішчы дробнай польскай шляхты называліся засценкамі, ваколіцамі. Затым частка гэтых паселішчаў павялічвалася ў памерах, ператваралася ў вёскі. У папрыпяцкім рэгіёне з'явіліся назвы паселішчаў Ляхаўцы, Ляхчыцы, Ляхі, у цэнтральным — Ляхавічы, Ляхаўшчына, у падзвінскім — Ляхава і інш. Адначасова з польскімі групамі насельніцтва ў нашым краі з'яўляюцца і новыя прозвішчы — Хадакоўскія, Недашкоўскія, Радзялоўскія і інш.

**Міхась ПІЛІПЕНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 35 — 37.**

ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ

# ЧЫСЦІНЮ ТРЫМАЮ Ў РУКАХ...

ПРЫЗНАЦЦА, як на сённяшні дзень, біяграфія Паўла Вераб'ёва не надта "выйгрышная". Мяркуйце самі: скончыў не толькі факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, але і Мінскую вышэйшую партыйную школу. У слаўгарадскай раённай газеце "Ленінскае слова" працаваў намеснікам рэдактара (для даведкі: яшчэ нядаўна чалавек, які займаў гэтую пасаду, аўтаматычна з'яўляўся і сакратаром партыйнай арганізацыі калектыву). "Дэмакраты" гатовы адразу забіць у званы. Бач ты, яшчэ адзін партыйны функцыянер знайшоўся. А гэты "функцыянер" цяпер працуе намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва "Юнацтва" і піша шчырыя, прачулыя вершы. Ды такія, на якія ў свой час звярнуў увагу сам Міхась Стральцоў. Хто-хто, а ён быў у літаратуры верабей стрэляны, якога на паэтычнай мякіне не правядзеш.

Яшчэ недзе ў 1979 годзе Міхась Лявонавіч, прачытаўшы ў раёнцы першыя творы свайго земляка, тады ўчарашняга выпускніка сярэдняй школы, маладога газетчыка П. Вераб'ёва, паклапаціўся ў Саюзе пісьменнікаў, каб яго абавязкова выклікалі на штогоднюю нараду маладых літаратараў, яшчэ ў колішні Дом творчасці пісьменнікаў імя Якуба Коласа, што знаходзіўся ў Каралішчавічах пад Мінскам. Там, дарэчы, мы ўпершыню з Паўлам і сустрэліся, але пра тое, што яго благаславіў у творчую дарогу менавіта М. Стральцоў, я даведаўся толькі некалькі месяцаў назад, калі ў першай кнізе паэта "Крытычная маса" прачытаў прадмову Рыгора Барадуліна. Не такі П. Вераб'ёў чалавек, каб многа расказваць пра сябе. Больш засяроджана-роздумны, чым завельмі адкрыты. А яшчэ ён... Ды пра гэта яскрава гаворыць і сама назва барадулінскага артыкула — "Ранішні і безабаронны". Рыгор Іванавіч не толькі дае высокую ацэнку творчасці П. Вераб'ёва, але і праводзіць, як на першы погляд, дык крыху нечаканую паралель: "Характар Паўла Вераб'ёва блізкі да стральцоўскага. Ён увесь з увагі і далікатнасці, з душэўнай чысціні і непахіснай перакананасці... А ўся сутнасць сапраўднай паэзіі ў самым поўным выяўленні, праяўленні, самавыказванні вершатворцы. У асобе Паўла Вераб'ёва маладая беларуская паэзія мае прыклад супадзення характару творцы з ягонымі вершамі. Гэта паэзія стрыманая ў пачуцці і ўзважаная розумам, прапушчаная праз сэрца і ахалоджаная канкрэтным жыццём, няўмольным побытам".

Такім чынам, два прызнаныя Майстры беларускай літаратуры гавораць "дабро" паэзіі П. Вераб'ёва. Абодва, прыхільна ставячыся да яе, рабілі ўсё дзеля таго, каб першыя, часам яшчэ і кволыя парасткі яе не зачахлі на скразняках няўважлівасці. М. Стральцоў падтрымаў першыя пробы пяра, Р. Барадулін адрэдагаваў, благаславіў у друк кнігу "Крытычная маса", якая летась і пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Праўда, з боку аматараў паэзіі, каму пакуль што не давялося пазнаёміцца са зборнікам, вось-вось гатова пачуццё: "Гэта, зразумела, добра, што Майстры падтрымалі талент, але ці не з'яўляецца падобная падтрымка звычайным авансаваннем? Хацелася б убачыць самі творы..." Жаданне заканамернае і зразумелае. Паэзію неабходна чытаць. У такім разе, для пачатку верш "Восень у райцэнтры". Не сказаць, каб самы лепшы ў гэтага аўтара, але верш, у якім усё перажыта, нічога надуманага:

**По старэнькіх брудных**
**тратуарах**
**Шаргацяць апалыя ліст**
**Ходзяць задаволеныя**
**пары,**
**Смех іх недарэчны і пусты,**
**Нечаканы, нібы дождж без**
**хмары, —**
**Папяліць прыязнасці**
**масты.**

**Можа, я не супраць іх у ,**
**Проста сёння я адзін**
**хаджу.**
**Восень. Мжэль.**
**І цяжка верыць смеху,**
**Так, як верыш ветру і**
**дажджу.**

Канечне, "апалыя лісты" рэжа слых, куды лепей і правільней — "апалае лісце", але ў астатнім... Мо таму, што і мне самому давялося бачыць гэтыя "старэнькія брудныя тратуары", ды не ў адным райцэнтры, а ажно ў трох, дзе працаваў раённым газетчыкам, малюнак, перададзены, узноўлены П. Вераб'ёвым, асабліва кранае і кранальна ўражвае. Сама паэзія паўсядзённасці паўстае, бачыцца з яе будзённай празаічнасцю, а поруч (карыстаюся барадулінскім вызначэннем) душа "ранішняя і безабаронная". Юнак, што яшчэ ва ўзросце свайго душэўнага непастаянства, не можа прыняць мяшчанскай псіхалогіі, той "сытасці", якая на самай справе не што іншае, як жаданне падацца лепшым, чым ты ёсць. І гэтыя задаволеныя пары, і іх смех, "недарэчны і пусты", і нечаканы дожджык падкрэсліваюць заспакоенасць жыцця, што ніколі не імкнулася і не імкнецца да недасягальных берагоў высокага ідэалу.

Лірычны герой П. Вераб'ёва гэтаксама, як і паэт, штодня сутыкаючыся з "правільнасцю", свайго роду "ўзаконенасцю" правінцыйнага жыцця, не мог задаволіцца ім, па-свойму шукаў выйсця, каб не зайсці ў тупіковую сітуацыю, з якой усе хады-выхады закрыты. Хацелася чагосьці большага, чым гэтае звычайнае існаванне, часцей за ўсё скіраванае на адно: было б мне, а што да іншых, дык якая справа. За ўсіх не перабаліш, кожнаму радасць не прынясеш...

Узнікалі пытанні, на якія хацелася знайсці адказ. Адно з іх вылілася ў чатырохрадкоўе, так і названае — "Пытанне сабе самому":

**Маё цела рассыплецца**
**ў прах,**
**Мае думкі спрасуюцца ў**
**камень.**
**Чысціню я трымаю ў руках,**
**А жыццё ці ўтрымаю**
**рукамі?..**

Чысціня... У самым шырокім разуменні яе... Чысціня пачуццяў і ўзаемаадносін... Чысціня мар і спадзяванняў... Чысціня наваколля... Як жа балюча ўсведамляць, што і над роднай Слаўгарадчынай праплываюць стронцыева-цэзіевыя аблокі і праліваюцца дажджы, якія нясуць з сабой зусім не жыццё, а небяспеку для яго. Разам з тым хочацца хоць на момант, хоць на імгненне забыцца пра суровыя, драматычныя рэаліі, адчуць ва ўсёй яго вабнасці блізкае і жаданае з маленства:

**На маёй Беларусі восень.**
**Жураўліны — праз сэрца**
**— клін.**
**І вандруе душа і галосіць**
**На пажары гаротных асін.**

**Пад распяццем крылаў**
**бусла —**
**Гэтак соладка, гэтак**
**горка...**
**Чысціні і пяшчоты зорка**
**Над прадоннем душы**
**ўзышла...**

І, зразумела ж, у П. Вераб'ёва (тут ён не выключэнне) — асаблівая туга па вёсцы, пастарэлай, забытай, хоць і знаходзіцца па-ранейшаму шмат ахвочых будаваць яе і адбудоўваць. Колісь калектывізавалі, цяпер гатовы ператварыць у суцэльныя фермы. І тады ў селяніна не пыталіся, ці надта патрэбна яму падобнае жыццё, і цяпер пра гэта не вельмі думаюць. Усё за яго вырашаюць, усе ў дабрадзеі набіваюцца, а "вёска сумуе па маладых руках, мама чакае сына, каб падакучыць бульбу, а бульба, бач, перарастае, нягледзячы на закон аб кааперацыі, які абяцае вярнуць гаспадара зямлі".

Павел Вераб'ёў свядома адмовіўся ў гэтым вершы "Вёска сумуе па маладых руках..." ад рыфмоўкі, што, увогуле, для яго творчай манеры не характэрна, ён прыхільнік дыцыйнага паэтычнага пісь Але сама проза паўсядзённасці вымагала гэтага, каб лепш перадаць тое, да чаго дайшлі мы: "Гляджу, і праз слёзы прыкры свайго бяссілля бачыцца, шт веце наогул не засталося конеи, апрача траянскіх".

Значнае месца ў цяперашняй творчасці П. Вераб'ёва (правільней, аднак, будзе сказаць, у першым перыядзе яе, таму што добра вядома, як доўга прабівае дарогу ў свет кніга) заняла інтымная тэма. Лірычны герой, чалавек сціплы і сарамяжлівы, знаходзіцца ў пастаянным роздуме пра сапраўдныя і ўяўныя каштоўнасці, памыляючыся, праходзячы праз адмаўленне, шукае таго адзінага чалавека, без якога немагчыма жыць далей. Будзем справядлівымі, у гэтым асэнсаванні і пераасэнсаванні першых няўдач не абышлося і без рамансавай "жестокости", як, напрыклад, у гэтых радках: "Не гадай, не варажы ты, знаю я без варажбы — дзень мой лепшы не пражыты, я зусім не жыў нібы".

Толькі не рамансавасць характэрна для любоўнай лірыкі паэта. Зусім не. У яго нямала вершаў, у якіх само пачуццё — цнатлівае, безабароннае — набывае вартасць, калі суадносіцца з самой паўсядзённасцю. У гэтым сэнсе крыху нечаканы, хоць, нельга не прызнаць, і якраз менавіта вераб'ёўскі такі твор:

**Ты мяне прыраўнуй**
**Да духмянай раллі,**
**Да закінутых збруй,**
**Што без справы гнілі.**

**Да асмужаных хат,**
**Да някошаных траў...**
**Раўнаваць да дзяўчат**
**Ты не маеш падстаў.**

Між іншым, і пра падобныя творы П. Вераб'ёва хораша сказаў Р. Барадулін: "Радкі пра тое спрадвечнае пачуццё, якое не дае жыццю спыніцца, трапяткія і па-беларуску цнатлівыя". А свае развагі ён завяршыў так: "Павел Вераб'ёў ранішні і безабаронны, даверлівы і шчыры, ідзе да цябе, чытач. Прымі яго і паэзію ягоную адпаведна! Не крыўдзі! Не абразь абыякавасцю".

Да гэтага застаецца хіба што дадаць наступнае: П. Вераб'ёў доўгі час жыў, як мы кажам, у правінцыі. Безумоўна, сапраўдны талент заўсёды акрыяе, што, дарэчы, і пацвярджае сама кніга "Крытычная маса". Але відавочна і другое: адарванасць ад сталічнага літаратурнага жыцця не можа не аказаць уплыву на творчасць. У адных выпадках існаванне ва "ўласным соку" вядзе да паэтычнай усёеднасці, адсутнасці цвёрдых мастакоўскіх крытэрыяў. У другіх — паэт, хоць і не прымыкае да нейкіх літаратурных плыняў ці фарміраванняў, аб'яднанняў, а застаецца самім сабой, самабытным творцам.

Для П. Вераб'ёва, як бачым, падыходзіць апошняе. Ён цікавы сваёй самабытнасцю. Ён паэт, якога не зблытаеш з іншымі. Каб жа і надалей яму ўдавалася трымаць у сваіх руках чысціню. І жыццёвую, і творчую!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

НАРОДНЫЯ ТАЛЕНТЫ



**Больш чым у дваццаці краінах свету дэманстраваў сваё каларытнае, самабытнае мастацтва народны ансамбль песні і танца "Сузор'е" з Брэста. Цяпер ён запрошаны на фальклорныя фестывалі ў Францыю і Югаславію. У гэтыя дні ідуць рэпетыцыі перад паездкай за мяжу. Аднак і цяпер "Сузор'е" дае канцэрты ў бліжэйшых раёнах.**
**НА ЗДЫМКУ: ансамбль "Сузор'е" выступае на летняй пляцоўцы перад жыхарамі горада Жабінка.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

ГОСЦІ З ПАРЫЖА

## «КДБ — КРЭПАСЦЬ»

У сталіцы Беларусі некалькі дзён знаходзіліся тэлежурналісты вядомай французскай дзяржаўнай тэлекампаніі "Антэн-2" з перакладчыкам Войтэкам Дзяржынскім, сваяком "жалезнага" Фелікса.

Яны ўжо другі раз у Мінску. У верасні мінулага года ў Маскве, Мінску і на радзіме Ф. Дзяржынскага яны здымалі кадры для дакументальнага каляровага тэлефільма "КДБ — крэпасць", які сёлета ў лютым дэманстраваўся на экранах Францыі і ўсіх краін Заходняй Еўропы, а яго стваральнікі атрымалі першую прэмію тэлекампаніі за лепшую кінастужку. Гэты фільм яны і прывезлі ў Мінск. Тут іх цікавіла, якія змяненні адбыліся ў Беларусі за апошні год.

Тэлежурналісты гутарылі на вуліцах горада з людзьмі, задавалі самыя розныя пытанні, прысутнічалі на мітынгу-малітве на плошчы імя Леніна. Яны выязджалі на радзіму Дзяржынскага ў Дзяржынава, бралі інтэрв'ю ў калгаснікаў вёскі Пятрылавічы Стаўбцоўскага раёна. Іх цікавілі адносіны землякоў да "жалезнага" Фелікса, антыканстытуцыйнага путчу, да Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе забароны і г. д.

Пабывалі госці ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, здымалі ў двары ля помніка загінуўшым у гады мінулай вайны выкладчыкам і студэнтам урачыстую лінейку студэнтаў, прысвечаную пачатку новага навучальнага года, узялі інтэрв'ю ў рэктара акадэміі акадэміка В. Чачына.

Французскія тэлежурналісты засталіся задаволенымі адказамі мінчан і іншых савецкіх людзей, якіх яны інтэрв'юіравалі. А калі размова зайшла аб разбурэнні ў нас у краіне помнікаў Дзяржынскаму, Свярдлову і іншым, то яны сказалі, што ў Парыжы, напрыклад, да гэтага часу стаяць помнікі скінутаму народным паўстаннем у 1793 годзе і пакаранаму на гільяціне каралю Людовіку XVI, а таксама Рабесп'еру, аднаму з кіраўнікоў Вялікай Французскай буржуазнай рэвалюцыі, які быў пакараны ў 1794 гдзе. Дарэчы, ніхто не збіраецца іх дэманціраваць.



Я мужык-беларус...

## ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ

# ТАЯМНІЦЫ УЛАДЗІМІРА І РАГНЕДЫ

У кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь" пераказваецца паведамленне Лаўрэнцьеўскага летапісу пад 1128 годам аб тым, як полацкая князёўна Рагнеда, якую вялікі князь Уладзімір Святаславіч сілай зрабіў сваёй жонкай і вялікай княгіняй, спрабавала забіць мужа. Тым самым яна хацела адпомсціць Уладзіміру за смерць бацькі (полацкі князь Рагвалод быў забіты Уладзімірам у час захопу Полацка), за смерць сваіх братоў і за разарэнне полацкага краю. Уладзімір, аднак, у апошнюю хвіліну прачнуўся і зразумеў намер Рагнеды. Лютай смерцю вырашыў пакараць злачынку-жонку вялікі князь. Але паміж разззлаваным бацькам і асуджанай на смерць маці стаў іх юны сын Ізяслаў. Уладзімір не змог забіць жонку разам з сынам і адправіў іх у ссылку ў горад, які спецыяльна дзеля гэтага збудаваў, — Ізяслаўль (цяпер горад Заслаўе на Міншчыне). Вось такая легенда.

Аналіз гэтага апавядання прымушае задаваць пытанні. Перш за ўсё незразумела, чаму Рагнеда адважылася на забойства пасля таго, як мінула шмат гадоў, а не адразу пасля таго, як была гвалтам узята Уладзімірам? Нельга забываць і аб тым, што ў складаных выпадках, пры пераказе кульмінацыйных момантаў адпаведных падзей, у летапісных легендах звычайна рамантызуецца сюжэт і выкладаецца вельмі своеасабліва, з яўнай мастацкай выдумкай. Многія апавяданні "Повести временных лет" і больш позніх летапісаў адрозніваюцца якраз такімі прыкметамі. А калі гэта так, то ці нельга ў разглядаемым выпадку меркаваць аб іншым, менш рамантычным развіцці падзей?

Рагнеда сапраўды не забыла смерці свайго бацькі і братоў. Яна ненавідзела князя Уладзіміра ўсё жыццё. І, зразумела, не змірылася са сваім становішчам жонкі-паланянкі. Але помсціць Уладзіміру такім простым і адначасова адчайным спосабам, як забойства ноччу, яна наўрад ці стала б. З другога боку, князь Уладзімір Святаславіч сапраўды вырашыў пакараць жонку самым бязлітасным чынам, але толькі не за спробу забіць яго ноччу. Хапацца за нож у хвіліну адчаю — ці не яўная гэта прыкмета слабасці і бязвыхаднасці? Рагнеда ж была моцнай і дзейнай натурай ...му не будзе пазбаўленым ...кі меркаванне аб тым, што Рагнеда стаяла на чале пэўнай групы, якая ставіла мэтай звергнуць Уладзіміра з кіеўскага ...лікакняжацкага стала з аднач... ым яго забойствам. Уладзімір выкрыў змову, але не асмеліўся пакараць смерцю жонку сапраўды таму, што за маці заступіўся сын Ізяслаў. Аднак ці быў ён настолькі юным, каб зрабіць гэта несвядома?

Летапісы гавораць, што Рагнеда і Ізяслаў былі высланы ў горад Ізяслаўль. Назва горада паходзіць ад імя князя Ізяслава. У старажытнай Русі гарады атрымлівалі назвы па імені таго ці іншага князя звычайна ў тым выпадку, калі закладваліся менавіта гэтым князем. Выпадак з Ізяслаўлем — не выключэнне. Магчыма, Ізяслаў, калі заступаўся за маці, меў для гэтага вельмі важкія аргументы. Не выключана, што яшчэ раней ён атрымаў пэўны надзел у Полацкай зямлі, карыстаўся ў ім уплывам і меў важкія падставы разлічваць на падтрымку іншых частак старажытнага полацкага краю. Праз некаторы час Ізяслаў садзіцца на княжэнне ў Полацку, а гэта пэўны доказ толькі што зробленых меркаванняў: наўрад ці Уладзімір добраахвотна высылаў бы апальную жонку ў тую зямлю, якую ён заўсёды з вялікай цяжкасцю ўтрымліваў у сваёй уладзе і адкуль мог заўсёды чакаць небяспекі.

Ізяслаў жа, калі стаў полацкім князем, адкрыта абвясціў палітыку, накіраваную на адраджэнне былой славы і магутнасці Полацкай дзяржавы часоў свайго дзеда Рагвалода. Гэта палітыка ніяк не ўзгаднялася з падпарадкаваным становішчам Полацка ў адносінах да Кіева. Імкненне да незалежнасці сутыкнулася з заканамерным процідзеяннем Кіева, а гэта азначала ўзнікненне вялікай і непрымірымай варожасці, якую адчувалі адзін да аднаго нашчадкі "старога Уладзіміра", нашчадкі полацкага Ізяслава і сыны і ўнукі кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча.

Старажытныя летапісы поўняцца таямніцамі. Адну з іх мы паспрабавалі разгадаць. Але з імёнамі Уладзіміра і Рагнеды звязана яшчэ адна, не менш цікавая загадка. У 980 годзе малады наўгародскі князь Уладзімір Святаславіч, які марыў аб велікакняжацкай уладзе, прапанаваў магутнаму полацкаму ўладару Рагвалоду заключыць саюз, накіраваны супраць вярхоўнай улады вялікага кіеўскага князя Яраполка, брата Уладзіміра. Для замацавання гэтага саюза Уладзімір меркаваў уступіць у сваяцкія адносіны з Рагвалодам, а менавіта — узяць у жонкі ягоную дачку Рагнеду. Князёўна, як вядома, адмовіла Уладзіміру, пасля чаго наўгародскі князь напаў на Полацк, разбіў войска Рагвалода і гвалтам дасягнуў сваёй мэты — Рагнеда стала яго паланянкай. Вось тут і хаваецца загадка. Сапраўды, чаму Уладзімір не паступіў з Рагнедай як са звычайнай наложніцай, якіх ён меў шмат? Ці не дзіўна, што Уладзімір зрабіў полацкую князёўну вялікай княгіняй? Гэта загадка паддаецца расшыфроўцы і прыадкрывае малавядомыя старонкі старажытнай гісторыі, таямніцы велікакняжацкага двара. Аб гэтым наш наступны матэрыял.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# РЭЧАЧКА-ПЯТЛЯНКА

*Словы Г. БУРАЎКІНА* *Музыка А. РАШЧЫНСКАГА*




**З вечарынкі-пагулянкі**
**Я сваю красуню вёў**
**Каля рэчачкі-пятлянкі,**
**Ля чаромхавых гаёў.**
**І вада вірыла смела,**
**І дражнілася са мной:**
**То наперадзе шумела,**
**То звінела за спіной.**

**Ну адкуль такая сіла?**
**Адцягнула ад сяла,**
**Закружыла, закруціла**
**І да лесу прывяла.**
**Дзе там сцежка, дзе палянка,**
**Дзе туману сіні дым,**
**Нават рэчачка-пятлянка**
**Не дазнаецца аб тым.**

**Да пары без дай прычыны**
**Не прызнаемся мы ёй,**
**Колькі зорак налічылі,**
**Колькі ўчулі салаўёў.**
**Дзе праседзелі да ранку**
**І шапталіся аб чым,**
**Разам з рэчачкай-пятлянкай**
**Мы пакуль што памаўчым.**

## НА ХВАЛІ ПАПУЛЯРНАСЦІ

# АЛЕГ КАЛУГІН ПІША КНІГІ

Як паведаміў дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Алег Калугін, цяпер у выдавецтве "Пік" рыхтуецца да выхаду яго кніга "Кубанскі марафон", якая расказвае аб перадвыбарнай барацьбе на Кубані, і аўтабіяграфічная аповесць пад умоўнай назвай "Спальваючы масты", якая адначасова будзе выдадзена ў СССР і на Захадзе.

Акрамя таго, у пачатку наступнага года ў выдавецтве "Новости" будзе выдадзена кніга Алега Калугіна, прысвечаная параўнаўчаму аналізу дзейнасці савецкай і заходніх разведак, іх магчымаму ўзаемадзеянню і процістаянню ў будучыні. Паводле заявы Калугіна, у гэтай кнізе будзе ўпершыню апублікаваны шэраг дакументаў, якія маюць адносіны да гісторыі спецслужбаў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1421.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12